

## Слон

— Слон, прызнайся,
калі ласка,
У цябе на носе маска?
Адказаў Сяргейку слон:
— Мае нос такі фасон.



## Леў смяецца

Паглядзеў на цень свой леў
І ад смеху аж прысеў:
«Ой, не ўцямлю я ніяк,
Што стаіць там за дзівак.
Сам як сам, а для прычоскі
Не знайшоў сабе расчоскі».



## Белы мядзведзь

Гарачай летняю
парой
Жыве ён
мараю адной:
— Эх, каб былі тут
гурбы снегу —
Ныраў бы кожны дзень
з разбегу!

## Цюлень і Белы мядзведзь

— Вельмі я хачу, мядзведзь,
футра белае надзець.
Можа, даў бы хоць на дзень,—
Папрасіў марскі цюлень.
— Даў бы з радасцю табе я —
Сам без футра адубею.





# Ягуар

— Я падумала, мо ягуару
паласатае футра да твару?
Ды шкада, што і ў будні,
і ў святы
Ён у плямы, а тыгр паласаты.



# Чорная пантэра

Чарней не бачыў звера,
Як чорная пантэра.
Купіць бы ёй бяліла,
Каб спінку пабяліла.



## Асёл

Блізка, блізка падышла
І пытаюся ў асла:
— Кажуць вельмі ты
упарты.
Гэта праўда?
— І-о-о, жарты.



## Вярблюд

Незадаволены вярблюд:
— Не падабаецца мне тут!
Я толькі ем і толькі сплю,
карыснай справы не раблю.



# Зебра і кенгуру

Зебра кажа кенгуру:
– Можа, сумку забяру?
– Што ты, сумка – для
дзіцяці,
Для майго кенгуруняці.
Я малога ў ёй нашу,
Сграваю, калышу.




# Буры мядзведзь

Маркотны, ціхі стаў
мядзведзь.
На гэта ёсць
прычыны:
Ён на абед
хацеў бы мецьц
Збан мёду
і маліны.

# Бегемот

— Беге-беге-
бегемот,
У цябе вялікі рот.
Што ты п'еш
і што ясі?
— З'ем банан,
калі дасі.





# Бегемот і кашалот

Запрашае бегемот:
— Калі ласка, кашалот,
У маё плыві балота.
— У балота? Неахвота.
Лепей ты — у маё мора,
пагуляем на пrасторы...
Бегемот на тое:
— Не,
Мора — гэта не па мне.
— Не,— адказ і ў кашалота,—
Не люблю зусім балота.



# Жырафа

Стала яна невясёлай:
— Хутка адчыніцца школа.
Я вышэйшая буду за ўсіх —
за вялікіх звяроў і малых.
— хваляваца, жырафа, не варта,
Сядзеш ты на апошнюю парту.



# Малпа

Надзвычайны спрыт у малпы.
Пазайздросціць акрабат:
У яе спружыны лапы,
Моцны хвост, нібы канат.



# Поні

Я працягваю далоні:
— Падыдзі, кабылка поні.
Я прашу цябе, прабач,
Панясі мяне наўскач.



# Пахваліліся

Селі малпы на арэлі,
Вышай ліпак узляцелі.
А сябрам сваім сказалі:
— Сёння ў космас мы зляталі!